і нічога ня пашкодзіла-б, каб вучні па вучыцяльскіх сэмінарыях, пад загадам і кантролям сваіх настаўнікаў, пачалі пісаць заміж «сочиненій» пераклады с фізыкі Краевіча і іншых падручнікаў па украінску; гэта дапамагала-б і навуку лепш разумець і прызвычаіцца выкладаць думкі свае на роднай мові».

Нам астаецца пажадаць, каб беларускае грамадзянства паставіла на чаргу школьнае пытанне і пайшла тропам за украінцамі.

### «Крыткі»

Шмат хто думае, што толькі у нас на Беларусі «знаўцы» роднае мовы і «патрыоты роднае вёскі» лаюць беларускую літэратурную мову. Але вось ніхай даведаюцца, людзі гэткага гатунку маюць сабе прыхільнікаў і на Украіні. Там такіх ягомасьцяў публіцыст у «Нов. Радзі» ахрысьціў «мэтэорамі». Прычвалае такі «мэтэор», паздароўкаецца і пачынае: Цудоўна! Відно, што працуецця. Толькі вот...

— А што?

— Ды вот, бачыце,—мова ваша на той сьвет загажане...

— А хіба што? пытаеш яго схвалёвана, думаючы што пэўня нешта «ўсадзіў» такое, што сорам і людзям паказаць.

— Ды вот але... або той взагалі [наагул]... Калі мы будзем ужываць гэтакія словы, дык ад нас усе людзі, як авечкі ад ваўкоў, паразьбягаюцца. Трэба пісаць так, як мы гаворыма...

— Ды Пан Бог з вамі!—зауважыш яму:—хіба ж можна так пісаць, як мы гаворыма? Заміж якось пісаць какось, як у нас кажуць? Гэта-ж німагчыма!

— Не, не! Ні тое, а вот выраз: «прапанаваць»,—хто яго у вас зразумея,—га?...

— А як жа па-вашаму?

— А вы проста і пішыце—предложить.

— Дык як жа так?—робіцца душна.—Гэта-ж німагчыма; тагды лепш проста пісаць па-расійску... Дык на вошта ж тагды уся гэта камэдыя? І Украіна, і украінцы і наагул уся справа?

— Ага, вот вы звыклі казаць наагул, а селянін вырачыць вочы і думае: што ён лапоча,—ці па-нямецку, ці па-жыдоўску? Ды уцякае ад вас, як ад чумы. А вы пішыце проста, як у нас гаворацъ»...

Божа,—хто толькі ні падымае свайго капыта на тое, што для яго нова і нязразумела?!



## Праэкт пляцформы беларусаў-аўтанамістаў.

(Пачатак глядз. у № 19).

### V. Сацыяльна-эканамічныя заданьні.

20) Дзеля вызваленьня народных беларускіх масаў с-пад гандлёва-прамысловай эксплоатацыі, патрэбна самае шырокае разьвіцьцё ў краі каапэратыўнага руху і муніцыпалізацыя некаторых галінаў прамысловасьці (трамвай, каналізацыя, асьвятленьне, аптэкі, кінематографы).

21) Дзеля развіцьця ў краю прамысловасьці павінны быць намечаны і пабудаваны фабрыкі і заводы, якія займуцца абрабляньнем сырых прадуктаў краю; павінны быць заложаны так сама вучэбныя майстэрні і інш.

22) Работніцкае пытаньне. У кірунку абароны законам работніцкай працы прызнаецца неадкладнай патрэбай: увядзеньне 8-гадзіннага рабочага дня, вольнасьць забастоўкаў, прафэсійных арганізацый, абарона мацярынства і дзіцячай працы, дзяржаўнае шаранцаваньне работнікаў на выпадак старасьці, нішчасных здарэньняў і інш.

23) Аграрнае пытаньне. Уся зямля, як дзяржаўная, манастырская, царкоўная, кабінэцкая, так і прыватная пераходзіць у агульнадзяржаўную, або ў грамадзянска-краёвую ўласнасьць с тым, каб гэтая зямля, назначаная для сельскай гаспадаркі, аддавалася на карыстаньне толькі тым, хто сам на ёй будзя працаваць. Спэкуляцыя зямлёю павінна быць забаронена пад страхам строгай угалоўнай кары. У цяперашні момэнт павінна быць наложана забарона на куплю-прадажу зямлі, на зямельныя нетры, на лясы і інш. да склікаўньня Устаноўчага Сойму, які і павінен будзе ў агульных рысах развязаць аграрнае пытаньне. Павінны быць устаноўлены законы аб захаваньні нацыянальных скарбаў краю. Дзеля разьвіцьця ў краі інтэнсыўнай сельска-гаспадарскай культуры, патрэбна шырокая арганізацыя дапамогі ад краёвага земства і ад агульнадзяржаўнай казны; так сама патрэбна шырокае развіцьцё ў краі мэліорацыйнага крэдыту.

### VI. Арганізаваньне беларускай правінцыі.

24) Дзеля выкананьня ў найблізшым часі культурна-нацыянальных і палітычных дамаганьняў беларускага народу ўсюды ў краі арганізуюцца мяйсцовыя камітэты на чале з Беларускім Нац. Кам. (Выканаўч. Кам. Ц. Б. Р.) у гор. Мінску. Да гэтага народнага будоўніцтва павінна актыўна прычыніцца сельская інтэлігэнцыя. Камітэты маюць сваёю мэтаю: 1) Падтрыманьне Часовага Ураду, паскольку ён стаіць на пляцформі абвешчаных ім вольнасьцяў і ні чыніць перашкодаў аўтанамістскім дамаганьням беларускага народу; 2) Агульную арганізацыю тылу, засеў палёў і самае стараннае зьбіраньне ураджаю, арганізацыя харчавой справы на мейсцох, падняцьце духу і дысцыпліны ў радох арміі, як неадкладных умоў давядзеньня вайны, у згодзі з нашымі хаўруснікамі, да зваеваньня аўстра-гэрманскага мілітарызму;

3) Неадкладную арганізацыю дробнай гаспадаркі на дэмакратычных падставах, агульны дагляд за бежанцамі, інвалідамі і сіратамі; 4) Падгатоўку насяленьня краю да выбараў у Усерасійскі і Беларускі Устаноўчыя Соймы і 5) Падтрыманьне і правядзеньне ў жыцьцё ўсіх культурна-палітычных і нацыанальных дамаганьняў беларускага народу.

### VII. Агульныя трэбаваньня.

25] Патрэбна неадкладнае утварэньне размяжовачнай камісіі, каб палажыць канец захватным дамаганьням суседзяў [як напр., дамаганьня літоўцаў на Вільню, насупярэчкі этнаграфічнаму прынцыпу].

26] Прызнаецца канешня патрэбным, каб Цэнтральным Урадам ні рабілося жадных заходаў ў адносінах да Беларускага Краю бяз ведама і згоды Белар. Нац. Кам. [Вык. Кам. Ц. Б. Р.]. Дзеля зносінаў Бел. Нац. Кам. [Вык. Кам. Ц. Б. Р.] з Цэнтральным Урадам ніадкладна выбіраецца Беларускім Нац. Камітэтам [Вык. Кам. Ц. Б. Р.] з ліку членаў Петраградзкага Бел. Кам. 3 прэдстаўнікі, праз якіх Нац. Бел. Кам. (Ц. Б. Р.) і зносіцца з Урадам, альбо асобнымі яго членамі аб усіх пытаньнях, якія паўстануць у Радзі.

27] Дзеля апрацаваньня законапраэктаў і палажэньняў датычачых арганізаваньня Беларусі на аўтаномных падставах, ва ўсе урадавыя камісіі і парады павінны ўваходзіць прэдстаўнікі Бел. Нац. Кам. [Ц. Б. Р.] с правам пастанаўляючага голасу.

28] Прызнаецца канешня патрэбнай адбудова коштам казны знішчаных вайною гарадоў і гаспадарак на Беларусі.

Злажыў член Асобай Парады аб краёвай рэформі для Устаноўчага Сойму канд. праў **Д. М. Сабалеўскі.**

1 мая 1917 г. г. Петраград.



## Уселякія звесткі.

### Літоўскія палітычныя партыі.

У літоўскім грамадзянстві партыі дзеляцца досыць рэзка. Ня гледзючы на гэта, усе партыі, дзякуючы палітычным умовам на Літве, маюць за сабою нівялікае мінулае. Есьць партыі, якія пачалі сваё жыцьцё с пачатку гэтага году.

Адною с паважных літоўскіх партый ёсьць партыя сацыялістаў-народнікаў Літвы; гэта партыя па сваім грамадзка-палітычным заданням найбольш падходзіць да расійск. сац.-рэв. На чале гэтае партыі у Літве стаяць: Більскі, Булат і Янушкевіч.

Другая сацыялістычныя партыя, літоўская сац.-дэмакратыя, гэтак сама досыць даўно зарганізована—у 1905 і 6 г. г. яна грала па Літве ужо досыць паважную роль; як і ў Расіі яна мае сва-

## Сымон Музыка.

Часьць другая.

(Працяг. Гл. № 17.)

I.

Ноч над сьветам панавала,
Поле жудасна маўчала
І халоднай ціпынной
Непрыветна спатыкала
Тых, хто с крыўджэнай душой
Нёс свой смутак, сваё гора
У гэты сьвет і ў гэту даль,
Каб раскідаць на прасторы
Сьлёзы горкія і жаль,
Каб ў дарозі між крыжамі
Гэты жаль узгадаваць,
Потым песьнямі, сьлезамі
Людзям зноў яго аддаць.
Шоў Сымонка на спатканьне
Змроку, цемрадзі палёў...
У круг пакуты і блуканьня
Мусіць Бог яго павёў.
І ён шоў... Куды? Ня ведаў,
Ды аб тым і ні пытаў.
Пад убогі крыжык дзедаў
Неўзаметкі прыблукаў.
Тут ён толькі схамянуўся,
Стаў па трошку разважаць,
Пудка ў страсі азірнуўся—
Глуха могілкі маўчаць.
Ен прысеў на край магілы,
Скрыпку з-боку палажыў,
І заплакаў: —Дзедка мілы!
Ты адзін у сьвеці быў,
Да каго я прыхіляўся,
Ты адзін мяне ні гнаў
І не крыўдзіў, не сьмеяўся,
І ў нядолі памагаў.
Голуб сівы мой, ачніся!
Пашкадуй мяне, дзядок...—
Плакаў хлопчык і ліліся
Градам сьлёзы на пясок.
Плачэ, бедны, прычытае,
Вуха к долу прыхіляе,
Ды маўчыць зямля сырая,
І ў глыбокай цішыне
Прычытаньне замірае.
Змогся хлопчык, абязсілеў,
Толькі ўсхліпываў, ўздыхаў
Ен сьлезамі жаль свой выліў,
Смутак імі спаласкаў.
І яму так лёгка стала,
Як бы што яго ўзьняло,
Далікатненька гайдала,
Й ў высь лёганька нясло.
Вот ён ўзьняўся над крыжамі,
Плаўна ў воздусі паплыў,
Толькі ветрык за вушамі
Ціха-ціха захадзіў.
А ён даляй усё нясецца,
Хмаркі гонюцца за ім—
І сьмяюцца—ён сьмяецца
Сьмехам радасным такім.
А пад імі сонцэ зьяе,
Іх цалуе, як дзяток,
І ў праменьнях іх купае
Залаты яго кружок.
Лёгка, вольна і лагодна
І на крыльлях сьветлых мар
Ен лётае так свабодна
У клубках купчастых хмар.
Ды раптоўна цёмна стала,
Злосна бура завыла,
І на сонцэ хмары гнала,
Закруціла, засьвістала,
Зашумела, загула.
А ляцець ён ўжо ня можа,
Страх яго апанаваў.
Толькі ж чуе ён—так гожэ
Хтось на скрыпцы заіграў.
Зноў вярнулась хлопцу сіла,
Страху скінуліся гужы.
Азірнуўся—зноў магіла,
Зноў пахілыя крыжы.
А на прыкладзі дрэўляным,
Бачыць—сівенькі дзядок,
Ва ўсё белае убраны,
Галаву схіліў на бок
І ўсё грае, ды так гожэ,
Як ніхто ішчэ ні граў;
То, здавалась, анёл Божы
Небу скаргу пасылаў
За дзіцятка, што марнее
Без прызору, без бацькоў,
Што ня песьціць і ня грэе
Ласка мацеры, братоў.
Слухаў хлопчык сьпеў нізнаны
І ні сьпеваны нікім,
І гаілісь сэрца раны
Нікла крыўда перад ім.
Дзед жэ грае, смыкам водзіць,
Плачуць струны і дрыжаць
І такую жальбу родзяць,
Што ніхто ня мог стрымаць:
І крыжы на дол прыпалі,
І схінуўся верх лясоў
І пець дзеду памагалі
Песьню дзіўную бяз слоў.
А Сымонка, як прыкуты,
Ня мог пальцам зварухнуць,
Ня мог чараў гэтых путы
Ні разбіць, ні адхінуць;
Толькі ж чуў, што ня ўздужае
Ды й ня схоча даляй жыць,
Бо то дзедка выклікае
Яго душу сапачыць.
Вот-вот ён ужо канае
І ўжо чуе сьмерці ўздох...
Ен ні плача, ні ўздыхае
І яго ні пашыбае
Ані жаласьць, ані страх,
Бо ён знае—па тым сьвеці
З дзедкам злучыцца ён зноў,
І ім скажэ Бог: «Ідзеце:
Рай даўно да вас гатоў!»—
Ды ў той момэнт, як здавалось,
Дух ўжо цела пакідаў,
Дзіва новае зноў сталось:
У скрыпку ўлез дзед і прапаў.
І сама ўжо скрыпка грала,
Покі лопнула струна,
А як лопнула,—прапала
Гэта дзіўная мара.
Стрэпянуўся, прахапіўся,
Галаву узьняў Сымон:
—Гэта ж толькі сон мне сьніўся...
І галоўку зьвесіў ён.
Аглядзеўся—скрыпка з боку,
Праўда: лопнула струна.
То ж сапраўды, не знароку,
Аж ішчэ гудзе яна.
Страшна, сьціпна хлопцу стала.
Калаціўся ён, дрыжаў,
Песьня ж ў сэрцы не змаўкала,
Смутак, гнеў у ёй гучаў.
Скрыпку ўзяў ён, азірнуўся,—
Страх пашыб яго мацней,
Тут ён скурчыўся, прыгнуўся
Ды с тых могілак барджэй
Бег, пудліва азіраўся,
Ды зноў бег па камянёх,
Толькі ў полі затрымаўся,
Пастаяў на растанцох
Пад тым крыжам, дзе дарогі
Секлі сьледам сваім сьлед
Ды праз нетры і разлогі
Беглі даляй ў Божы сьвет..
Гэй, дарогі ў чыстым полі,
Ніці шэрыя зямлі!
Колькі к долі і нядолі
Ног людзкіх вы праняcьлі!
Вышла б казка, ды якая,
Каб маглі вы разказаць
То, што думка не згадае,
Што адным вам толькі знаць!
І шчасьлівы той, хто з вамі
Не спазнаўся ў ранні час,
Хто не плакаў пад крыжамі,
У смутку стоючы ні раз
Адзінока памеж вамі,
Суеты людзкой гонцы,
Там, дзе бітымі сьледамі
Бяжыцё ва ўсе канцы!
Над Сымонкам думкі ўюцца:
Што рабіць? Куды ісьці?
Ці ў сяло назад вярнуцца,
Ці ў сьвет гора панясьці?
Ды вялікі ж сьвет бяз конца,
А ён—мошачка у ім,
Лёгкі пыл ў праменьнях сонца,
У ясным небі тонкі дым,
Чужаніца меж сваімі,
«Непатрэбны дармаед»,
Як пагодзіцца с чужымі?
Як сустрэне гэты сьвет?
І да дому ж ён ня пойдзе—
Сьлёзы ліць і сьпіну гнуць.
Долю знойдзе, ці ня знойдзе,—
Гайда ў пуць, далёкі пуць!

II.

Нікла ночка, дзень займаўся,
Дрогнуў змрок і пашарэў,
Усход далёкі праясьняўся
Чырванеў і весялеў.
Чырвень шырэй разпімалась
І пажарам залатым
Над зямлёю калыхалась.
Хмары сівые, як дым,
Расплываліcь, ападалі,
Бы Сам Бог на іх дыхнуў;
Чары ночкі прападалі,
Чуць дзянёк адно зірнуў.
Шоў Сымонка, углядаўся,
Як зьяў хораша усход,
Як дзень новы з ім вітаўся,
Клікаў весела ўпярод.
І ён гнаў, мінаў сялібы,
Што чарнеліся ўдалі,
Шоў прамкамі цераз скібы
Сьвежа ўзгоранай зямлі,
Каб з людзьмі не сустрэкацца
І хітрэй схаваць сьляды,
Бо мог ўсякі запытацца,
Хто, адкуль ён і куды
Ідзе рана так, да сьвету
І адзін, такі малы,
Абарваны, чуць адзеты
І абуты ў пасталы.
Доўга ён трапаў, далёка
Кінуў роднае сяло,
А над лесам ўжо высока
Сонцэ ў гору падышло
І прыветна обласкала
Блазна—згнанніка цяплом,
Бытцам матка, цалавала
Залатым сваім лучом
І Сымонка усьмяхнуўся,
У сэрцы новы сьпеў ўзыграў,
Зноў музыка ў ім ачнуўся,
Зноў душой ён ажываў.

іх «большэвікоў» і «меньшэвікоў.» «Большэвікі» з'едналіся у літоўскім районі з расійскай работніцкай партыей с.-д. «меньшэвікі»-ж складаюць сац.-д. партыю Літвы.

З вялікім усьпехам праводзюць сваю чыннасьць гэтак сама і літоўск. клерыкалы, або, як іх афіцыальна называюць, хрысціянскія дэмакраты. Трэба зауважыць, што народ на Літве вельмі рэлігійны і ставіцца з вялікаю павагаю да ксяндзоў. Клерыкалы вядуць антысацыялістычную прапаганду і вінавацяць сацыялістаў у бязбожыі.

Лібэральны рух літоўскага грамадзкога жыцьця арганізаваўся толькі у апошні час пад назваю партыі дэмакратычнай згоды нацыянальнай волі. Плятформа партыі пазаклясавая. Вялікае значэння у іх мае развіцьце нацыянальнай культуры; прызнаецца эвалюцыйны сацыялізм. На чале партыі стаяць: адвакат Леонас і барон Шылінг.

Трохі правейшую ад іх пазыцыю займае партыя нацыянальнага прагрэсу, з членам Думы Ічасам і праф. Вольдэмарам на чале. Гэта партыя бліжэй да клерыкалаў у том сэнсі, што у рад з нацыянальным элемэнтам у культурным жыцьці ставіць рэлігійны. Абедзьве апошнія партыі ня цешацца уплывам на народ.

Усе партыі, вылучаючы сац.-д. «меньшэвікоў,» маюць свае органы друку. Партыйныя адносіны досыць паганыя, асабліва у апошнія часы. Як ведама, у літоўскім соймі пытанне пра палітычную будучыну Літвы разбіла партыі на дзьве часткі; з аднаго боку дзьве сацыялістычн. партыі і лібэралы, з другога нацыяналісты і клерыкалы. У зьвязку з гэтым распалася гэтак сама літоўская нацыянальная рада, зарганізованая с прэдстаўнікоў партый на партыйных падставах, і камітэт па кіраўніцтву Літвою, у які уходзілі яшчэ прэдстаўнікі ад жыдоў. Цяпер літоўскія грамадзкія дзеячы шукаюць новага грунту для злажэння агульна-нацыянальнага калектыву, які-бы выслаўляў волю тае часткі літоўскага народу, што жыве у Расіі.

**Страта прыбалтыйскага краю.**

Забранне Рыгі паставіла на чаргу пытанне, да каго будзе належыць посьля вайны прыбалтыйскі край. На моцы гэтага, цікава, якіх думак на конта гэтага трымаюцца нямецкія уплывавыя кругі. «Цюбінгэнскі прафэсар, Гэллер, чытаем мы у газэці «День», катэгарычна зазначыў, што Балтыйскае мора—занатта вузкае для двух вялікіх дзяржаваў, а праз гэта, Расію трэба адціснуць ад мора і ліквідаваць дазвання дзела Пётры Вялікага.» На асобку, даводзіць Гэллер, ані як нельга згадзіцца с тым, каб Ліфляндзія заставалася у расійскіх руках, бо на Дзвіне Расія можа учыніць з Няметчынай ні сталы мір, а толькі замірэнне,—на Дзвіне Расія будзе яшчэ занатта дужая. Адначасна з Гэллерам дэпутат рэйхстату, Шыффэр, у урочыстай прамові дадаў, што адабраць у Расіі Ліфляндзію, Курляндзію і Эстляндзію ёсьць павіннасьць Гэрманіі перад сваімі зямлякамі, каторых начай ня пашкадуе расійскі барбарызм. Але гэты пагляд на той час меў праціўнікаў з боку антыанэксіаністаў, каторыя даводзілі, што Расія ніколі ня зьмірыцца, страціўшы Балтыйскае мора, і тагды грунтоўна, сталы мір з ёю ніколі ні магчым.

Але страта Рыгі пераводзіць пытанне аб уладанні прыбалтыйскім краем з сфэры лятуцення на рэальны грунт. Сёлета, улетку у нямецкім штотыднёвіку «Die Grenzboten,» быў надрукован артыкул, каторы зважаючы на шмат перадрукаў, зрабіў моцнае ўражэнне. Аўтар артыкулу выслаўляе сваё пажаданне катэгарычна: прыбалтыйскі край ні толькі трэба, але й можна бяз асаблівага напружэння адабраць у Расіі, бо яна цяпер ня цікавіцца цэласьцю тэрыторыі. «У тае Расіі,» піша аўтар, якая стаяла перад намі яшчэ нядзель колькі перад намі, здавалася, што балтыйская зямля магла быць вырвана толькі сілаю меча.» Цяпер усе перамянілася. «Першым чынам наша дыплёматыя павінна так формуляваць і выказаць ваенныя мэты, каторыя вымагаюцца нашымі інтэрэсамі, каб яны паказаліся новым уладарам Расіі як можна смачнейшымі і каб памагчымасьці набліжаліся да іх партыйных прынцыпаў.»

Дык вот якія заданні у гэрманскіх імпэрыялістаў: разабраць Расію, але зрабіць гэта так, каб расійскім рэвалюцыанерам паказалася «як можна смачней.»

**Посьля панавання расійскага ураду на Беларусі.**

(З. Б. Грынчэнка.)

Убогія нівы, убогія сёлы,
Убогі абшарпаны люд.
Сумныя малюнкі, сумны ні вясёлы,
А іншых ня знайдзеш ты тут.
Ня стаў-бы глядзеці, хацеў-бы забыці,
Дык сілы забыць іх німа:
То-ж родныя сёлы, то-ж родныя людзі,
То наша айчына сама.

# ХРОНІКА.

**Прывітаньне Ц. Б. Р. ад украінцаў.**

Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый адтрымала такую прыветную тэлеграму ад прэдстаўнікаў братняга украінскага народу:

«Украінская Цэнтральная Рада вітае заснаваньне органу нацыянальнай думкі цэнтральную арганізацыю найблізшага нам братняга беларускага народу. Верымо, што дружнымі высілкамі і салідарнасьцю не ў забаві здабудзямо той лад, у якім нашым дэмакратычным нацыям будзя забяспечана магчымасьць матэр'яльнага і культурнага дабрабыту.»

**Запрашэньне Ц. Б. Р. на Усерасійскі зьезд дэмакратыі.**

Выканаўчым Камітэтам Ц. Р. бел. арг. атрымана такая тэлеграма:

«У цяжкія дні, перажываемыя бацькаўшчынай, калі здрада і прадацельство загражаюць ваенным разгромам і ўнутранымі непарадкамі, ў дэмакратыі павінна шукаць рэвалюцыйная Расія сваё збавеньне. Трэба сабраць усе сілы краю, каб арганізаваць абарону, памагчы яго ўнутранняму упарадкаванню і сказаць сваё пастанаўляючае слова ў пытаньні аб умовах забязпечываючых істнение моцнай рэвалюцыйнай ўласьці, здольнай злучыць усю рэвалюцыйную Расію дзеля адпору ўнешнім ворагам і дзеля падаўленьня ўсякіх нападаў на заваёваную волю.

Дзеля гэтага Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Рады Работніцкіх і Салдацкіх Дэпутатаў і Выканаўчы Камітэт Рады Сялянскіх Дэпутатаў пастанавілі: скліваць на 12 верасьня ў Петраградзі зьезд усяе арганізованае дэмакратыі Расіі і запрашае вас прысладь на гэты дзень пяць прэдстаўнікаў.

Чхэідзе, Аўксенцьеў.

**Беларускі бежанскі камітэт.**

6-га верасьня г.г. адбыўся сход уцякачоў беларусаў, скліканы Цэнтральнай Радай Беларускіх арганізацый.

Выбраны выканаўчы камітэт з 5-ці чал. бежанцоў і 2 прэдстаўнікаў Рады, а так сама Рада і уцекачоў.

Пастаноўлена нібаўна пачаць рэгістрацію беларусаў-уцекачоў, расьцярушаных па усёй Расіі, дзеля згуртаваньня іх пры Радзі і Цэнтральным белар. бежанск. камітэці, якія сваімі заданьнямі ставюць:

1) Помач беларусам-уцекачам у формі роўнага і справедлівага выдаваньня пайкоў, адзежы, абутак і г. д.;

2) помач уцекачам пры павароці да хаты пасьля вайны;

3) помач на мейсцох [адбудаваньне сяліб, помач у гаспадарцы і др.]

Усе бежанскія арганізацыі, якія захочуць прылучыцца да Цэнтральнага Беларускага Бежанскага Камітэту, утворанага пры Ц. Р. Б. А. павінны прысладь пісьменныя заявы з подпісамі на імя Ц. Рады Б. А. па адрэсі: Мінск, Захарэўская, 18. Ц. Рада Б. А.

**Мова, якую меў па-беларуску прэдстаўн. Б. Н. П. С. Л. Заяц на першым засяданьні новай дэмакрат. Гарадзкой Думы ў Мінску.**

ТАВАРЫШЫ і ГРАМАДЗЯНЕ!

Доўга, надта доўга прышлося чакаць сягодняшняга вялікага сьвята, калі ўся ўласьць даецца ў рукі праўдзівай дэмак-

---

Як сьмяюцца толькі дзеці,
Засьмеяўся зноў Сымон,
Бо пачуўся, што на сьвеці
Не адзін ён—с скрыпкай ён.
Хлопчык вочкі ускідае,
Каб акінуць гэту даль,
К сэрцу скрыпку прыхіляе:
Чаго ж шкода? Чаго жаль?
І што можэ быць дарожэй
Вольнай волячкі, палёў?
Гэтай сіняй далі Божай,
Невядомай і прыгожай,
Без канца, без берагоў,
Гэтых хмарак злотатканых,
Ветра посьвісту ў палёх,
Думак сьветлых, мар незнаных
І нікому неказаных
Казак лесу і дарог?
Эх, ты, шыр, прастор далёкі!...
І шчасьлівы будзе той,
Хто душою адзінокі
У згодзі злучыцца с табой!..
Ды Сымонка с тэй трывогі
Ночкі жудаснай ня чуў,
Што даўно ўжо млелі ногі
І што холад яго гнуў,
А з ім сіла адбаўлялась
І спыняўся яго крок.
Моцна есьці зажадалось,
Так запах яму хлябок!
Проста, цукрам паказаўся—
Так ён міл быў і жадан!
А мо' ў торбі заваляўся
Хлеба чорствага крышан?
І дрыготнымі рукамі
Ен шукае яе дна,
Ды дарэмна: за плечамі
Лёгка шоргалась яна.
Голад літасьці ні мае,
Як яго ні прэблагай
Ні на вошта ні ўважае,
А што трэба,—яму дай.
Неадступны, неўгамонны,
За тобой ідзе, як цень,
А за ім ты, паднявольны,
Снуеш ў ночы і у дзень.

Апусьціўшы сумна вочы,
Даляй хлопчык падыбаў,
Есьці хочэ—німа мочы,
Ледзьве ногі падымаў,
І так млосна, млосна стала,
Пацямнела у вачах,
Цела ўсё яго дрыжала
У бок вадзіла і хістала;
Чуць трымаўся на нагах.
Так ішоў ён і раптоўна
Стаў, як спынены ён кім:
Каля лесу, ў неба роўна
Плыў высока сіні дым;
Сам агоньчык ў полі тлее,
Нікагусенька німа.
Хлопчык зразу весялее,
С твару споўзае дума.
О, то можна падкрапіцца
І агоньчык скарыстаць,
Толькі трэба ухітрыцца
Бульбы торбу накапаць.
А у полі яе многа,
Азірнуўся ўперад ён,
Паглядзеў—німа нікога
І—шусь ў бульбу, на загон!
Накапаўшы, асьцярожна
Да агню пашыбаваў.
Відавочка, падарожны
Тут ішоў і спачываў.
Ды цяпер не да развагі:
Прысак хлопчык расхіліў,
Усыпаў бульбу, ды карчагі
Ды дроў зьверху налажыў.
Зноў агоньчык разгараўся,
Бойка полымя шугаў,
Спад карчагі выбіваўся,
Тонкай стужачкай зьвіваўся
І паленцы ахінаў;
А дымок, як хвост зьмяіны
Трапятаўся і гуляў
Ды скрозь сучкі і галіны
Валаконцы працягаў,
І губляўся на прасторы
У ясным небі ціха млеў,
А з ім ніклі думкі гора,
Зноў Сымонка весялеў.

Сам за кусьцік ён схаваўся
І адтуль як бы зьвярок,
Навакола азіраўся,
Бо Сымонка наш баяўся,
Каб агоньчык і дымок
Не прывабіў хлопцаў с поля
Ці з дарогі тут каго...
Бедны хлопчык: так нядоля
Гнула, нішчыла яго,
Што баяўся ўсіх да-званьня
Людзям веры ні даваў,
І ў дарозі іх спатканьня
За вярсту ён абегаў.
—Ну, лупінка запеклася!
От, ўжо прышчацца яны;
От ім толькі засталася
Палавінка быць ў агні...
Ну, гатова! Не: сырая,
От мінуцінка адна—
Нехай добра падсыхае
Ды паджарыцца яна.
Так Сымонка нецярпліва
Час, мінутку вылічаў
І на бульбу тую хціва
Вокам ласым пазіраў.
—Ну, цяпер то ўжо гатова!
Даляй ён ня мог чакаць,
Падышоў, раскідаў дровы
І стаў бульбу выграбаць.
Выгрэб с прыску яе жыва,
У торбу борздзенька кладзе,
Усьмехаецца шчасьліва,
Торбу ўзяў ён і ідзе.
Выйме бульбу, пакачае
Між далоняў, дзьмухане,
Ды так смачна уплетае,
У бок нікуды ні зірне,
З бульбы вочак не спускае.
От ён трохі падкрапіўся,
Зноў ажыў ён і ўздужаў,
С скрыпкай зноў цяпер насіўся
Струнку зьвязваў, нацягаў,
А як ўсё было гатова,
Узяў зашморганы смычок—
І заслухалась дуброва,
Дуб стары, маладнячок,

Як Сымонка здольна смыкам
С скрыпкі сьлёзы выцягаў
І як дзіўным яе зыкам
Усё вакруг тут чараваў.
Усё забыў цяпер Сымонка,
Скрыпцы душу ўсю аддаў;
Граў то ціха ён, то звонка
І жалобна заміраў;
То зноў скрыпка галасіла
Сумнай восені дажджом,
То зьвінела, гаманіла
І лілася ручаём
І адразу адрывала
Сьпеў магутнасьці яна,
Каб зноў горэм задрыжала
Яе чуткая струна.
Граў Сымонка і часамі
Смык ад скрыпкі аднімаў
І куды-сь то ў глыб вачамі
Угледаўся, пазіраў,
Ды так пільна і старанне
Бытцам думкі ён лавіў,
Тые сьпевы, тое граньне,
Чым ён ў гэты момэнт жыў,
Потым зноў ён ачынаўся
Сэрцэ білося ў грудзях,
І агоньчык запаляўся
У яго кругленькіх вачах;
Зноў над скрыпкай смык жалобна
Бегаў плачучы, рыдаў,
І сьлезамі дробна, дробна
Усю дуброву напоўняў.
Сьціхнуў хлопчык, азірнуўшысь,
І падскочыў: перад ім
Сівы дзед стаіць, сагнуўшысь,
Вокам міргае сляпым.
Ен стаяў, як здань якая,
Абапершысь на кіёк,
Галава яго сівая
Пахілілася на бок.
Страшны, бледны, абарваны
Жыцьця пасынак, бедак,—
У анучы і лахманы
Быў ахінаны жабрак.
—Хто ты, хлопчэ?—дзед спытаўся,
Чый сынок? Якіх бацькоў?

Ты праўдзівы, ці мне здаўся?
Ты ня дух гэтых лясоў?
Божэ-ж мілы, як ты граеш!
Усё нутро ты мне спаліў...
С кім хаўрус, скажы мне, маеш?
Чорт, ці анёл навучыў
Граць так здольна, так прыгожа,
Што ня ў сілах жаль стрымаць,
І душа стрываць ня можэ
Каб ні плакаць, ні рыдаць.—
—Я—Сымонка, сын Панасаў,
З дому выгнаны, дзядок!
—А за што і з якіх часаў?
—Я не ўпасьвіў авечок,
Воўк ускочыў і параніў,
Трох на полі задушыў;
Бацька лаяў мяне, ганіў,
Потым дзьверы адчыніў
І прагнаў у сьвет бяз хлеба
З дому роднага, двара...
—Ну, не плач, сынок, ня трэба...
А я думаў: ты—мара.
Дзе-ж ты, сынку, ў твае годы
Навучыўся так іграць?
Ці табе Пан Бог з уроды,
Судзіў талент такі даць?
Божэ-ж мілы, от дык бацька!
Але-ж, мусіць, ён не знаў,
Як с табою ён багацька
Траціў, дурэнь і губляў.
А мо', сынку, трошкі хлусіш?..
Ды ня с тых, здаецца, не!
Што-ж цяпер ты рабіць мусіш?
Эх, каб талент твой—ды мне!..

(Праця̆г будзе).

**Якуб Колас.**

# ТАВАРЫШЫ І ГРАМАДЗЯНЕ!

17-го верэсьня Мінскі аддзел Бел. Сац. Грамады арганізуе скарбоначны збор. Часьць гэтага збору наступіць на карысьць Ц. Р. Б. А., часьць на Ц. Бежанскі Камітэт.

Таварышы і Грамадзяне! Нехай кожын з нас памятае, што патрэб у нас шмат, і здавольніць гэтыя патрэбы можым толькі тады, калі кожны з нас паможа і грашмі, і працай.

Нехай усе, асабліва члены Б. С. Г. прынясуць магчымую помач!

Грамадзяне! Гэта наша павіннасьць, наш абавязак!

---

рацыі, абаронцам працоўнае беднаты, прыяцялям народу...

Прэдстаўнікі рэвалюцыйнае дэмакрацыі злучыўшыся моцна ўсе разам, павінны апраўдаць тыя вялікія надзеі, якія на іх пакладаюць: у агульна-дзяржаўным сэнсі—уся Расія і ў сэнсі мяйсцовага самапарадкаваньня—тутэйшыя жыхары. Але яны толькі тагды апраўдаюць надзеі ўсяго рэвалюцыйнага народу, а разам і тутэйшых жыхароў, калі прэдстаўнікі дзяржаўцай нацыі, злучыўшыся з намі—недзяржаўнымі, пастараюцца як мага загладзіць тыя крыўды, залячыць тыя глыбокія раны, каторыя так доўга чыніло нам, беларусам, украінцам, жыдам, палякам і літоўцам, крывавае царскае самаўладзтво... Праўда, яно ціснуло і душыло, як магло ўвесь працоўны народ Расіі, ні зважаючы ні на Боскія, ні на людзкія законы, але найбольш душыло гэтае правіцельство цемры нас, беларусаў і нашых братоў украінцаў...

Стоючы на грунці фэдэратыўнага перабудаваньня Расійскай Рэспублікі, мы, Бел. Нар. Парт. Сац., моцна пракананы, што толькі такі лад можа ўмаўцаваць разваліваючуся вялікую старую будыніну Расійскую, звязаўшы моцна ў адно цэлае асобныя аўтаномныя "народы Расіі. І калі ў вашых праграмах, таварышы гласныя, стаяць вялікія словы: фэдэрацыя, аўтаномія, самаазначэньне народаў,—нехай гэтыя словы ня будуць толькі «дактрынай», нікчэмным зыкам, але яны павінны праводзіцца ў жыцьцё... Калі вы кажэце «самаазначэньне народаў», дык ня мейце перад вачыма толькі папуасаў, бушмэнаў і гуттэнтотаў, але мейце на ўвазі, што і мы, беларусы, украінцы, літоўцы і інш маем права на гэта самае самаазначэньне, бо іначэй ваш праграмны лёзунг будзя адным прыкрывацельствам...

Што датыча нашай муніцыпальнай пляцформы, з каторай мы пастараліся пазнаёміць шырокія станы насяленьня на сваіх мітынгах, мы гэтую праграму будзем старацца праводзіць безадкладна ў жыцьцё, неухільна стоючы на варці інтарэсаў працоўнае беднаты і рабочых клясаў. І калі мы гэтага дабьемся, дык тагды мы зможам з радасьцяй сказаць разам з нашым беларускім паэтам: «Сонцэ навукі скрозь хмары цёмныя глянуло ясна над нашай ніваю, і будуць жыць дзеткі патомныя доляю новаю, доляй шчасьліваю!...»

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Агульныя весткі.

### Чуткі аб замірэньню.

Уся Расія і ня толькі Расія, але й ўвесь сьвет повен цяпер чуткамі аб блізкім замірэньні. Выніклі яны вось с чаго. Гэтымі днямі стаўся вядомым адказ Нямеччыны й Аўстрыі на мірную ноту Папы, ноту, аб якой мы ўспаміналі у № 13.

І вось адначасьня з гэтаю пэўнаю весткаю напаўзлі пагаласкі. Кажуць, што быццам немцы зьвярнуліся да нашых хаўрусьнікаў с прапазіцыею замірыцца на кошт Расіі.

Паводлуг гэтых чуткаў, немцы запрапанавалі хаўрусьнікам такія умовы: Францыя атрымоўвае ад немцаў Альзас-Лётарынгію, Італія ад аўстрыйцаў—Трэнціно, Англія—часьць нямецкіх калёній ў Афрыцы, немцы забіраюць ад Расіі Прыбалтыцкі край з Рыгаю, Віндаваю, і Лібаваю, Фінляндзія аддаецца пад апеку швэдам, а Літва і Польша—пад апеку немцам, Сэрбія аддае Аўстрыі кавалак прыгранічнай паласы, але атрымоўвае за тое доступ да Адрыатыцкага мора і становіцца апякункаю Албаніі, Бэльгія, Сэрбія і Чарнагорыя адбудоўваюцца коштам усіх дзяржаў, Румынія—за свой кошт.

Такім парадкам, мір быў бы карысны для ўсіх дзяржаў, апроча Расіі і Румыніі.

Расійскае міністэрство заграничных спраў перэчыць гэтым чуткам і нават надрукавало аб гэтым у газэтах. Тым ня меняй, чуткі ўсё шырацца. Магчыма, што да Каляд будзя мір, але не такі, якім мы казалі вышэй. Дзякуючы такому міру, Нямеччына страшна ўзмацавалася-б, а Англія і Францыя ведаюць, чым пагражае для іх узмацненьне Нямеччыны.

### Ужываньне мяйсцовых моваў.

У нацыянальным аддзелі міністэрства ўнутраных спраў апрацоўваецца пытаньне аб ужываньні мяйсцовых моваў ў урадавых і прыватных установах.

### Засуджэньне Сухамлінава.

Петраград 13—IX. Пасьля 8-гадзіннай парады прысяжныя засядацелі прызналі быўшага ваеннага міністра Сухамлінава віноўным у здрадзе дзяржавы, у бяздзейсьцві і правышэньні ўласьці і ў падлогах, адкінуўшы толькі абвінавачэньне ў сьвядомай падмозі ворагу. Жонка Сухамлінава апраўдана. Суд прысудзіў Сухамлінава да пазбаўленьня ўсіх праў і засланьня на катаргу без сталага тэрміну.

### Безрабоціца.

Усім ведама, што ў Расіі цяпер адчуваецца вялікі брак рабочых рук, але ня усе ведаюць, што разам с тым насуваецца безрабоціца. У 19 № «Вольн. Бел.» мы успаміналі аб зачыненьні вялікага рэечнага заводу на Уралі. Цяпер мы можам дадаць трохі падробнасьцяў аб зачыненьні заводаў. С 15-га верасьня зачыняецца Сармаўскі завод, на якім мело работу каля 25.000 чалавек. Завод працаваў на абарону. На Пуцілаўскім заводзі назначано да рашчоту 5.000 работнікаў, у первую голаву з шрапнэльных майстэрняў. На заводзі Сіммэнс-Шукэрт назначано да рашчоту 800 работнікаў; на заводзі Бараноўскага—1500 работнікаў; Глухаазёрскі цэмэнтны завод зачыняецца; драцяны завод Данецка-Юр'еускага Таварыства зменшае лік сваіх вырабаў; на грамадзянскіх мэталічных заводах зачынена трубачная майстэрня; мэталічны завод Зіміна і Зеленова зменьшае лік вырабаў і т. д. Глаўнай прычынай усяго гэтага выстаўляецца брак матар'ялу.

Вельмі паважныя думкі выклікае магчымы канец вайны, калі хваля безработных можа заліць усю дзяржаву, выклікаць галодныя бунты безработных і зьнішчыць усе здабыткі работніцкай клясы. Дзеля гэтага патрэбна вялікая праца цяпер жэ, неадкладна, над падлічэньнем рабочай сілы ў войску і над збіраньнем ведамасьцяў, гдзе гэтая рабочая сіла патрэбна.

### Адклад вучэньня ў вышэйшых Петраградзкіх школах.

Часовы Урад пастанавіў: адлажыць пачатак вучэньня ў Петраградзкіх вышэйшіх школах да другога школьнага року. Пастанова гэтая не датычыць толькі мэдыкаў.

### Адстаўка ген. Алексеева.

Начальнік штабу Вярхоўнага Глаўнакамандуючага ген. Алексееў выйшаў ў адстаўку.

### Скасаваньне дарэмнай перавозкі багажу.

Часовы Урад пастанавіў скасаваць права пасажыраў на дарэмную перавозку аднаго пуда багажу на білет.

### Тайныя тэлеграмы паміж Мікалаем II і Вільгэльмам II.

У некатарых расійскіх газэтах надрукованы тайныя тэлеграмы, якія ў 1904—05 г.г. сlаліся быўшым царом Мікалаем II Вільгэльму і атрымліваліся ад яго. У ранейшых тэлеграмах гаварыцца аб праэкці расійска-нямецкага хаўрусу проціў ангельцаў. У тэлеграмах, пасылаўшыхся летам і у восянь 1905 г., Вільгэльм радзіў цару пытаньне аб замірэньні з японцамі аддаць на разгляд Думы і тым скінуць часьць віны с свае галавы на Думу.

### Манаполія на цукер.

Міністэрство фінансаў думае ўвесьці манаполію на цукер. Цукер будзя прадавацца ў казённых і хаўрусных (каапэратыўных) крамах па такой, прыблізна, цане: цукровы пясок па 1 р.—1 р. 20 к. за фунт, пілованы цукер па 1 р. 40 к.—1 р. 50 к.

### Карткі на мыла і на сьвечкі.

Міністэрство харчавых спраў прызнало неадкладнай патрэбай увядзеньне картак на мыло і сьвечкі.

### Парада аб аўтаноміі Бессарабіі.

Недаўно ў Кішынёві адбылася парада предстаўнікаў усіх грамадзянскіх і палітычных арганізацый Бесарабіі. Пастаноўлено, што Бесарабія павінна мець ня толькі культурную, але й шырокую палітычна-тэрыторыяльную аутаномію з аднакімі правамі для усіх нацыянальнасьцяў. Межамі Бесарабіі уважаюцца з заходу—р. Прут, а с усходу—р. Днестр.

### Аўтаномія Сібіру.

Сібірскі краёвы зьезд, адбыўшыся ў Томску ў першай палавіні жніўня апрацаваў праэкт аўтаноміі Сібіру. Гэты праэкт будзя адданы на разгляд склікаемага у блізкім часі Усерасійскага Устаноўчага Зьезду. Паводля гэтага праэкту Сібір прыраўніваецца да штатаў, пабудованых на фэдэральных падставах, законадаўства належыць да Сібірскай Рады, выканаўчая ўласьць—Сібірскай Радзі Міністраў, а найвыжшая судная ўласьць—Сібірскаму Сэнату.

С.-Д. абвясьцілі пратэст проціў пастановаў зьезду. Большасьць членаў зьезду належыць да партыі С.-Р.



# ВАЙНА.

### Агляд ваенных падзей.

**Пад Рыгаю**—сутычкі перадавых часьцей і разведчыкаў з перавагаю на наш бок. У раёні Урбенскага праліву немцы увесь час робяць разведкі, як аэрапланамі і цэппэлінамі, так і падводнымі чайкамі, выглядаючы палажэньня нашага флоту.

**Паміж Рыгай і Дзьвінскам** можна адзначыць забраньне немцамі гораду Якобштаду на левым боку Дзьвіны. Гэтым немцы абсякаюць магчымасьць расійскага наступленьня у абход Рыгі.

**На рэшту фронтаў**—разведкі і налёты аэрапланаў.

### Перагаворы Японіі з Амэрыкаю.

Японскія газэты пішуць, што паміж Японіей і Амэрыкай цяпер адбываюцца перагаворы аб выступленьні Японіі ў вайне замест Расіі.



# Ад рэдакцыі

У 1910 г. Віленскае Таварыство «Крестьянинъ» выдало тэатральны твор Касьяна Вясёлага «Ня розумомъ понявъ, а сэрцемъ.»

Хто ведае аўтара або яго адрас, просім напісаць аб гэтым у рэдакцыю «Вольнай Беларусі»

Рэдактар Я. Лёсік.





Выдавец «Т-ва Беларускай Культуры.» Друкарня П. М. Нахумова (старшага).